 


# ПАГОНЯ

Чацвер
21 верасня 2000 г.
№ 35 (482)
Кошт 70 рублёў


## Белашэўскі ўжо «прызначыў» дэпутатаў!

**Кіраўніцтва гарадзенскай міліцыі не давярае сваім супрацоўнікам. Альбо байцца. Інакш не стаў бы генерал Анатоль Белашэўскі на адной са сваіх нарадаў намякаў міліцыянтам, за каго галасаваць на выбарах у лукашэнкаўскую «палатку». І не толькі галасаваць, але і агітаваць, і нават падказваць несвядомым на выбарчых участках, што наогул забаронена законам.**

Аказваецца, спіс тых, за каго трэба галасаваць, быў абмеркаваны і зацверджаны на пасяджэнні Гарадзенскага гарвыканкама. Вось некаторыя прозвішчы патрэбных для міліцыі і ўлады кандыдатаў ад Гарадзеншчыны: Фралоў, Байкоў, Здановіч, Часнойць, Аўрамчык, Лосеў ды іншыя.

На жаль спіс прызначэнцаў у «палатку» няпоўны. Аднак у бліжэйшых нумарах мы падамо прозвішчы ўсіх, хто павінен быць атрымальнікам народнага даверу.

М.Веснікові

## Грошы на «Курск» ад гарадзенскай міліцыі

**Гарадзенская міліцыя збірае сродкі сем'ям расейскіх падводнікаў, што загінулі ў жніўні на субмарыне «Курск».**

І гэта не была ўласная ініцыятыва гарадзенцаў. Указанне прыйшло з Менска, з Міністэрства ўнутраных справаў. Канкрэтная сума ахвяравання не азначана, але міліцэйскае кіраўніцтва прыблізную колькасць усё ж прапанавала. Па 1000 рублёў з міліцыянтаў у форме і па 500 - з гэтак званых неатэставаных супрацоўнікаў.

Рэакцыя большасці міліцыянтаў на гэтую ініцыятыву была больш чым прадказальнай. Аддаваць заробленыя грошы на ўзмацненне не толькі расейскага, але і якога-кольвек флоту ахвотных няма.

Аднак загады ў міліцыі не абмяркоўваюць. Таму, напэўна, грошы здадуць усе і акт братэрскай любові Беларусі і Расеі адбудзецца.

Іван Паўлёнак

## Еўрарэгіён «Нёман» запрашае

**Сёння ў Гарадзенскім Лядовым палацы з 12 гадзін пачала работу выстава «Еўрарэгіён «Нёман»-2000, арганізаваная сумесна з выставачным цэнтрам «Белэкспа».**

Да ўдзелу запрошаныя гандлёвыя і закупачныя прадпрыемствы Гарадзенскай вобласці і памежных раёнаў Польшчы, Літвы, Расеі. На тры дні выставы, з 21 па 23 верасня, запланаваныя бізнес-сустрэчы дэлегацыяў, дэманстрацыі ўзораў прадукцыі і заключэнні дамоваў.

Самае цікавае для гараджанаў - дэгустацыі - будзе на другі дзень мерапрыемства, у пятніцу. Як паказала практыка першай такой выставы, што адбылася ў мінулагоднюю восень (у Палацы культуры хімікаў), асабліву цікаўнасць публікі выклікаюць павільёны мясакамбінатаў і піўзаводаў. Уваход на выставу свабодны.

Алена Сіневіч




**22, 23 верасня** - воблачна, з праясненнямі, часам - апад кі, вецер усходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра 22 і 23 верасня - уначы +3...+8, удзень +8...+13.

# Лепей з мілым у траве, чым такія выбары




## Асаблівасці нацыянальнай беларускай гульні пад кодавай назвай «Выбары»

*«Сітуацыю ведаем, кантралюем, падабраны добрыя кандыдаты».*
**Аркадзь Карпуць, старшыня Гарадзенскага аблсавета
(З выступлення на адкрыцці новага будынка суда першага верасня 2000 года).**

Вось і завяршыўся другі этап нацыянальнай беларускай гульні. На старт выйшлі прэтэндэнты на званне дэпутата Вярхоўнага савета. Праўда, спіс іх яшчэ нельга назваць поўным. Магчыма, тыя, каму адмоўлена ў мандаце кандыдата ў дэпутаты, аспрэчаць рашэнні акруговых выбарчых камісіяў у Менску і пасля 20 верасня таксама ўключацца ў барацьбу.

Лічбы такія: наогул па Гарадзенскай вобласці падалі заявы на ўдзел у выбарах 89 чалавек. 55 - зарэгістравана ў якасці кандыдатаў. 15 верасня ім выдалі пасведчанні. 34 прэтэндэнты атрымалі адмову.

Сацыяльная структура прэтэндэнтаў выглядае наступным чынам: з 55 зарэгістраваных 13 чалавек прадстаўляюць органы дзяржкіравання, 24 - кіраўнікі, радзей супрацоўнікі разнастайных дзяржпрадпрыемстваў і ўстановаў, астатнія 18 - з камерцыйных структураў, грамадскіх арганізацыяў і так званыя «часова непрацуючыя». Прадстаўнікі ўладнай вертыкалі могуць спакойна перавесці дух. Яны зрабілі ўсё, як належыць, і атрымалі патрэбны вынік. Мабыць, можна было б адсеяць і болей прэтэндэнтаў, аднак тады знікла б ілюзія плюралізму. Ды і пры такім раскладзе на «гульнёвым полі» болей за 2/3 удзельнікаў - прадстаўнікі «партыі ўлады».

Этап збору подпісаў і афармлення заяўных дакументаў мае шэраг відавочных і скрытых складанасцяў, якія і павінны быць у сур'ёзнай гульні. Калі прэтэндэнт выпраўшы балатавацца ад якой-небудзь з партыяў, ён мусіць ведаць, што менавіта на тэрыторыі ягонай акругі, а не дзесьці на суседняй вуліцы, павінна быць першасная арганізацыя партыі. На гэтым «пагарэлі» многія заяўнікі: фактычна ўсе, хто ішоў ад Сацыял-дэмакратычнай партыі народнай згоды. Неблагі спосаб вылучэння - ад працоўных калектываў. Але яго прыберагла сабе вертыкаль, удала скарыстаўшыся старымі наменклатурнымі сувязямі. Так, шэф Дзяржкантролю па Гарадзенскай вобласці Марыя Праташчык вылучана ажно двума заводзікамі Навагрудка.

Дарэчы, пра раёны. Глыбінка - вось месца, дзе можна ўпэўнена заваладаць людскім даверам. Не толькі спадарыня Праташчык накіравала сваю каманду з абласнога цэнтра ў раёны. Начальнік Упраўлення аховы здароўя вобласці Роберт Часнойць балатуецца ў Смаргоні. Слоніму аказалі гонар адразу некалькі высокіх чыноў з Менска, у тым ліку прадстаўнік Адміністрацыі прэзідэнта. Але вернемся да прычынаў, якія выстаўляюць члены выбарчых камісіяў у якасці аргументу пры адмове прэтэндэнтам у рэгістрацыі.

Шлях вылучэння кандыдата з дапамогай збору подпісаў (не меней як 1000), на першы погляд, больш надзейны за партыйны. Але менавіта тут без асаблівых намаганняў можна знайсці мноства хібаў, у тым ліку недарэчныя памылкі ў напісанні, напрыклад, даты. Прычына - «больш як 15 працэнтаў няпоўных подпісаў» стала падставай для адмовы журналісту Уладзіміру Саласюку, лідару грамадскай арганізацыі жанчын «Крыніца Міласэрнасці» Марыне Леванеўскай, апальнаму праваслаўнаму святару Яну Спасюку ды многім іншым. Але і гэтым не вычэрпваецца набор інструментаў для дбайнай шліфоўкі спісаў кандыдатаў у дэпутаты, што маюць сябры выбарчых камісіяў.

Так, да прадстаўнікоў прыватнага бізнесу пасьпяхова выкарыстоўвалі такі аргумент як «недакладныя звесткі пра сябе» альбо «ўтойванне даходаў». У пятніцу, 15 верасня, у сваёй 52 (Цэнтральнай) выбарчай акрузе атрымаў адмову ў рэгістрацыі кандыдатам дырэктар фірмы «ІнтэрБел» Валерый Аутка. Камісія палічыла звесткі, пададзеныя ў дэкларацыі аб маёмасці і даходах прэтэндэнта «няпоўнымі». Паводле меркавання сябраў камісіі, у графе «транспартныя сродкі», ён павінен быў указаць не адзін, а тры аўтамабілі. Пасля атрымання звестак наконт некалі набытых Валерыем Ауткам аўтамабіляў, сябры выбарчай камісіі не знайшлі часу (а мо папросту не захацелі) удакладніць, ці можна лічыць іх маёмасцю прэтэндэнта. На самой справе, адзін з іх - «Ford-Granada», 1978 года выпуску, уяўляе сабою проста ламачча і ўжо ніяк не транспартны сродак. А другім - старэнькім аўтамабілем «Volkswagen» - па генеральнай даверанасці карыстаецца зусім іншы чалавек. На ўсё гэта ёсць дакументальныя пацверджанні. Аднак такія дробязі камісію не цікавяць.

Гульня пад назвай «Выбары ў Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь» складаная, часам захапляльная, мажлівая, для некага нават азартная. Але пры гэтым фінал яе практычна прадвызначаны.

Ніна Палуцкая

## Новы прэзэс для палякаў

**18-19 лістапада ў Гродне пройдзе пазачарговы з'езд Саюза палякаў Беларусі. Яго правядзенне выклікана неабходнасцю абрання новага старшыні гэтага грамадскага аб'яднання.**

Ранейшы кіраўнік Тадэвуш Гавін, які ўзначальваў Саюз палякаў з часу стварэння на працягу 12 гадоў, падаў у адстаўку па стану здароўя сёлета ў ліпені. Паводле наяўнай інфармацыі, Гавін застанецца сябрам праўлення Саюза палякаў і па магчымасці будзе браць удзел у яго дзейнасці.

На пазачарговым з'ездзе плануецца таксама разгледзець пытанні ўнясення зменаў у статут арганізацыі.

Ася Куніцкая

## «Залатая восень» змяніла адрас

**23 верасня ў Гродне пройдзе традыцыйны кірмаш «Залатая восень».**

З 10 гадзін раніцы да 15 гадзін дня на плошчы Леніна разгорнецца гандаль харчовымі таварамі - садавінай, агароднінай, мяснымі вырабамі, напоямі. Будзе прадстаўлена і прадукцыя прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

Плошча Леніна патроху становіцца адрасам для ўсіх гарадзенскіх кірмашоў. Тут праходзяць Школьная, Навагодняя і ўсе астатнія распрадажы. Сёлета і восеньскі кірмаш перамясціўся з Савецкай вуліцы, дзе праходзіў традыцыйна, на плошчу Леніна.

## Добрае не можа быць танным

**На мінулым тыдні ў цэнтры Гродна на вуліцы Савецкай адчыніўся салон-магазін «Стыль». Гэта, напэўна, самы дарагі магазін адзення са скуры і футра ў горадзе.**

Практыку элітных крамаў распачаў летам буцік «Тэддзі», дзе джэнтльмэн за некалькі сот умоўных адзінак можа набыць усё - ад шнуркоў да шляпы - у адным тоне ды яшчэ сапраўднай італійскай вытворчасці.

І вось цяпер - навінка для нябедных дам, здольных выкласці 2,5 мільёнаў рублёў за норкавую шубку і 400 тысяч рублёў за басаножкі. За гішпанскую дубленку тут давядзецца заплаціць 300 у.а., за шубу са спіцнутрыі - прыкладна 700 умоўных адзінак.

Тым жа грамадзянам, якія не залічваюць сябе да катэгорыі элітных пакупнікоў, давядзецца купляць кітайскі і карэйскі тавар на рынку. Там таксама ўжо распачаўся гандаль адзеннем асенне-зімовага сезону.

Алена Сіневіч

## «Кейс» прапісаўся ў Лідзе

**Магчымасць павелічэння выпуску збожжаўборачных камбайнаў на заводзе «Лідаграпраммаш» абмяркоўвалася падчас візіту ў Ліду 19 верасня дэлегацыі нямецкага канцэрна «Кейс» на чале з віцэ-прэзідэнтам канцэрна Жэрарам Шыферам.**

Спецыялісты канцэрна бяруць удзел у зборцы збожжаўборачных камбайнаў «Ліда-1300» і «SF-30» на беларускім прадпрыемстве. Работа тэхнікі, выраблянай у Лідзе, атрымала самую высокую ацэнку экспертаў. Перад калектывам «Лідаграпраммаша» пастаўлена задача сабраць у 2001 годзе 400 камбайнаў «Ліда-1300» і 100 «SF-30».

Апошнія з'яўляюцца найноўшай распрацоўкай канцэрна і па многіх параметрах не саступаюць лепшым узорам камбайнабудавання.

Ася Куніцкая

 

# Вярнуўся прафесар Астроўскі

**Днямі са Злучаных Штатаў Амерыкі вярнуўся прафесар Гарадзенскага медуніверсітэта, адзін з лідараў БНФ «Адраджэньне» Алесь Астроўскі. На працягу трох тыдняў ён у складзе групы з 10 чалавек вывучаў палітычную і выбарчую сістэму ЗША. Прадстаўнікі БНФ, КХП, АГП, БСДП(НГ), БСДГ наведалі Вашынгтон, Арланда, Сакрамэнта, Мэдзісан, Нью-Ёрк.**

У аўторак, на чарговай Радзе Гарадзенскага БНФ Алесь Астроўскі распавёў пра свае ўражанні. Вось некаторыя з іх: «Там, дзе можна зрабіць пасаду выбарчай, у Амерыцы яе робяць выбарчай»; «Дзейнасць абранага прадстаўніка абсалютна адкрытая. Любы чалавек можа прыйсці на пасяджэнне і паглядзець, чым займаецца ягоны абраннік».

Выключнае непадабенства амерыканскай і беларускай сістэмаў парламентарызму выклікала шмат пытанняў у гарадзенцаў.

# Гарадзенскі БПСМ яшчэ не атрымаў «ЦэУ»

**16 верасня Пленум ЦК БПСМ прыняў рашэнне, што кожная першасная арганізацыя БПСМ абярэ сабе аднаго кандытата ў сваёй акрузе, за якога будзе агітаваць і галасаваць.**

З пытаннем - каго абралі гарадзенскія «патрыёты» - ПАГОНЯ звярнулася да Дзмітрыя Апалайкі, адказнага за выбары ў гаркаме БПСМ.

З ягоных словаў стала зразумела, што пра рашэнне Пленума ў Гродне не ведаюць. Таму працягваюць рыхтавацца да выбараў «запланаваным шляхам - праводзіць сустрэчы з усімі гарадзенскімі кандыдатамі ў палату», каб даведацца, што яны хочуць зрабіць для моладзі і БПСМ.

**П.М.**

# У ЗША памятаюць пра Віктара Ганчара

**Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Рычард Баўчар выступіў з заявай з нагоды гадавіны знікнення, 16 верасня 1999 года, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара і ягонага сябра, бізнесмена Анатоля Красоўскага.**

Нагадаўшы пра іншыя знікненні вядомых людзей у Беларусі за апошнія два гады, сп. Баўчар заклікаў беларускія ўлады "як мага хутчэй, старанна і адкрыта расследаваць усе знікненні і наказаць тых, хто сапраўды за іх адказны." На думку сп. Баўчара, улады Беларусі пакуль што не зрабілі сур'ёзных крокаў для пошукаў зніклых без вестак людзей. Прэс-сакратар Дзяржэпартамента таксама выказаў шкадаванне, што улады забаранілі правядзенне пікету ў гадавіну знікнення Ганчара і Красоўскага, парушыўшы абяцанне Аляксандра Лукашэнкі аб усталяванні ў Беларусі «клімату даверу».

Выступаючы 14 верасня на пасяджэнні пастаяннай рады АБСЕ ў Вене, прадстаўнік ЗША Йосія Разенблат заявіў, што апошнія крокі беларускіх улад падрываюць веру ў іх прыхільнасць да свабодных і справядлівых выбараў. У прыватнасці, сп. Разенблат працытаваў заяву кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі, у якой адзначаюцца факты ўмяшальніцтва ўлад у дзейнасць выбарчых камісій. Акрамя таго, факты пераследу актывістаў апазіцыі за заклікі да байкоту выбараў ставяць пад сумненне ліберальныя намеры рэжыму, заявіў Разенблат.

**Алесь Абрамовіч**

# «Падтрымліваючы палітыку прэзідэнта...»

**Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі актыўна і заўзята прапагандуюць так званы зварот кандыдатаў «Мы хочам разам з Вамі будаваць квітнеючую Беларусь» (гл. «Гродзенскую праўду» ад 14 верасня). Тэкст па свайму зместу моцна патыхае цемрашальствам другой паловы 30-х гадоў у СССР і з'яўляецца сучасным узорам хлуслівай і ваяўнічай сталінскай прапаганды. Чаго ж дамагаюцца аўтары і падпісанты звароту?**

Адразу звяртае на сябе ўвагу гебельсаўскі стыль публікацыі: чым больш хлусні, тым табе хутчэй павераць, што маючыя адбыцца выбары ў палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу павінны «замацаваць заваёвы беларускага народа, дасягнутыя за апошнія гады». Дарэчы, слова «народ» узгадваецца трынаццаць разоў. Так робяць тыя дзялкі ад палітыкі, якія заўсёды заграбаюць жар чужымі рукамі, і яшчэ раз хочуць той самы даверлівы люд ашукаць.

Што да «заваёваў», то кожны грамадзянін адчувае «дасягненні» рэжыму на ўласнай кішэні і па цэнах у магазінах.

Той чытач, каму давялося гартаць даваенныя газеты, са здзіўленнем знаходзіць падабенства не толькі у пустой рыторыцы, ваяўнічай фразеалогіі ды лютай нянавісці да іншадумства. Раней да нябёс услаўлялі вялікага Сталіна і кляліся ў адданасці яму. Цяпер выяўляюць сваю рабскую пакорлівасць Аляксандру Лукашэнку, якога называюць выратавальнікам Беларусі за тое, што здолеў спыніць працэс развалу, які абрынуўся на наш народ у 1991-1994 гадах. Таму, на думку аўтараў звароту, будучыя дэпутаты «павінны таксама шукаць супрацоўніцтва з абраным усім народам прэзідэнтам». Значыць, Беларусь зноў будзе мець «кішэнны», паднявольны парламент.

Небяспека такога, з дазволу сказаць, заканадаўчага органа бачыцца ў тым, што ў патрэбны час ён з гатоўнасцю адбесціць рэферэндум (і, безумоўна, атрымае патрэбныя вынікі) пра наданне так званым Палаце прадстаўнікоў і Савету рэспублікі права абіраць прэзідэнта на сваіх пасяджэннях. Зноў жа, у імя і дзеля інтарэсаў народа, які раптам шчыра заклапоціцца пра значныя грашовыя сродкі, якія марнуюцца на арганізацыю і правядзенне «ўсялякіх там выбараў, прыдуманых дэмакратамі». Дарэчы, першы з пяці рэферэндумаў, праведзены Гітлерам пры абранні яго фюрэрам (правадыром, бацькам), надаў яму права пажыццёвага кіраўніка Германіі.

Бясспрэчна і тое, што зварот быў падрыхтаваны прапагандыстамі-палкоўнікамі з Адміністрацыі прэзідэнта. Вобраз мыслення гэтых людзей застаўся на ўзроўні унтэр-афіцэра Прышыбеева, просталінейнасць выказванняў часам нагадвае думкі ўслых вядомых герояў армейскіх анекдотаў. Пра гэта сведчаць выслоўі пра «былых партыйных функцыянераў, якія прадалі Кампартыю». Атрымліваецца, што невядомыя складальнікі звароту, а разам з імі і асобы-падпісанты да гэтага часу застаюцца вернымі паслядоўнікамі марксізму-ленінізму. Яны і дэмакратыю ўяўляюць па-свойму - права ўлады раіцца з народам праз рэферэндумы. І ўсё. Вынікі рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў узводзяцца ў абсалют, хаця яны праводзіліся незаконна і шляхам шматлікіх махінацыяў. Гэта была гульня шулераў-напарстачнікаў з талерантным Беларусам, падманам уцягнутым у кола вулічных прайдзісветаў. З Беларусам, якому рэжым прычапіў зняважлівы ярлык - «простой народ» (г.зн. наіўныя, недасведчаныя людзі, якіх лёгка збіць з панталыку абяцанкамі, амерыканскай пагрозай, апазіцыяй, унутранымі і знешнімі ворагамі, славянскім братэрствам ды іншай лухтою). Менавіта на такі электарат разлічаны зварот.

Асабліва моцная крытыка адрасавана «радыкальнай нацыяналістычнай апазіцыі». Складаецца ўражанне, што дзеля яе вымучаны гэты пафасны дакумент. Лютая нянавісць да рэформаў «вертыкалі» з боку апазіцыі, на думку аўтараў звароту, выклікана якраз дасягненнямі рэжыму, якім зайздросцяць усе постсавецкія рэспублікі. Народы Літвы, Латвіі, Эстоніі, відаць, таксама ў захапленні ад беларускага ўяўнага «эканамічнага цуда». Пра гэта ў звароце не гаворыцца. Але ж калі «ўсе» былыя рэспублікі...

Як і ў далёкія 30-ыя гады на ўвесь голас сцвярджаецца пра замежныя спецслужбы, інструкцыі «кукловодаў», адпаведна якім нібыта адпрацоўвае свае даляры беларуская апазіцыя. Здаецца, недалёкі той час, калі рэжым разгорне супраць актыўных дзеячаў апазіцыі кампанію пазбаўлення іх беларускага грамадзянства. У тэксце ёсць такая думка.

Падпісанты ўпэўненыя, што краіна багатая настолькі, што здольна ўтрымліваць «добра ўзброеную армію, праваахоўныя органы, якія будуць гатовыя даць адпаведны адпор любой агрэсіі»... Моська дзядулі Крылова па-ранейшаму галасістая, брэша з буды, палохаючы сябе і раздражняючы іншых. А працэй, цярпасніпа прыкарытнікі любымі сродкамі спрабуюць утрымаць уладу, нават шляхам скарыстання супраць свайго згаладалага і збяднелага народа арміі ды ўнутраных войскаў.

Ёсць у звароце іідавочныя «праколы». Казкам пра саюзную дзяржаву Беларусь-Расея ўжо мала хто верыць. Аднак падпісанты з настойлівасцю дзятла спяваюць старую песню пра незалежнасць у складзе іншай краіны. Сумленны рэферэндум дасць адмоўны адказ на гэтае надуманае пытанне. Але ж такое апытанне людзей зусім не ў планах рэжыму, бо падрывае саму ідэю «ў развіцці галоўнага кірунку знешняй палітыкі». Іншага не дадзена.

Сімвалічна гучаць словазлучэнні «наша краіна», «нашыя людзі», «наш выбар», «мы павінны», «наша грамадства». Наша - значыць іхнае, складальнікаў звароту і тых, хто паставіў пад тэкстам свае подпісы. Гэта іх краіна, і яны не ўтойваюць сваіх думак.

Дык хто ж яны, падпісанты? Што за асобы без вагання паставілі свае подпісы пад дакументам, напісаным моваю пазаўчарашняга дня? Выяўляецца, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, якія зусім не супраць зноў атабарыцца ў зале пасяджэнняў. Гэта ім абяцана. Проста за так сваім сумленнем сёння гандляваць ніхто не будзе. Пералічваць прозвішчы ўсіх адзінаццаці няма сэнсу. Аднак некаторых падпісантаў нагадаем: генеральны дырэктар «ІнтэрБел» Уладзімір Александровіч, прэзідэнт ЗАТ «Белнафтагаз» Раман Ананьеў, прэзідэнт канцэрна «Белрэсурсы» Юрый Астапчанка, сумнавядомы беларускі «ястраб» Ігар Катляроў, генеральны дырэктар аграгандлёвай фірмы «Днепр» Валерый Ліпкін ды іншыя. Дзелавым людзям асаблівага выбару няма. Падпішаш зварот - набудзеш месца ў парламенце, не падпішаш - нары ў турме гарантаваныя. Не ты першы - не ты апошні.

Подласць звароту бачыцца ў тым, што падпісанты заклікаюць іншых кандыдатаў у дэпутаты падтрымаць іх прыклад, таксама пакінуць подпісы пад дакументам. Цябе яшчэ не абралі, а душу закладзі, загадзя прадай сумленне, стань на пазіцыі ўлады. Прайграеш выбары, захочаш «незалежным» быць, а табе - тыц пад нос паперу: сам жа падпісаў, не выбрыкваў, танцуй пад дудку...

Калі станеш дэпутатам, то твае пазіцыі ды рашэнні ўжо абумоўленыя. Гэта завецца кругавой парукай, калектыўнай адказнасцю, міфіёзным кланам, прысягай на вернасць. У нашым выпадку - Аляксандру Лукашэнку.

Папера здольная вытрываць усё. Але яна з'яўляецца дакументальным сведчаннем фактаў і падзеяў. Тэрмін даўніны не мае над ёю сілы. Калі не табе, то дзецям і ўнукам будзе сорамна за бацькоў ці дзядоў. У гэтым жыцці за ўсё трэба адказваць. Рана ці позна.

**Антон Лабовіч**

**З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула: 76 дні**

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы.



# У Лідзе ўвялі квоты на правядзенне пікетаў

**Такую выснову можна зрабіць пасля прачытання адказу старшыні лідскага гарвыканкама У.Мальца на маю заяўку наконт правядзення пікету «За незалежнасць Беларусі». А адказ быў такі: «Лідскі гарвыканкам нагадвае, што 18 сакавіка і 23 ліпеня гэтага года вамі праведзены пікеты, на якіх вы ўжо выказалі свае адносіны да пытання незалежнасці Беларусі. У сувязі з гэтым гарвыканкам адмаўляе ў правядзенні пікету 3 верасня 2000 года. Старшыня гарвыканкама У.М.Малец».**

Вось так. Правялі два пікеты, і хопіць. Ліміт вычарпаны. Я не ведаю, чаго ў гэтым адказе больш: глупства альбо нянавісці да людзей, якія смела выходзяць на вуліцы пад нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам, каб абараніць незалежнасць Бацькаўшчыны. А хутчэй за ўсё, «вертыкальшчына» трасецца перад простымі людзьмі, якія ўсё больш і больш падыходзяць па пікетоўчыкаў і пытаюцца, як жыць далей. Бо заробкі маленькія, а цэны - усё вышэй і вышэй. І калі кажаш, што толькі ў незалежных краінах чалавек жыве годна, і прыводзіш прыклады Чэхіі, Польшчы, Літвы, людзі пагаджаюцца.

Наменклатуру задаволіла б, каб людзі наогул не разважалі, каб ім ніхто не даваў праўдзівай інфармацыі. І лідская вертыкаль знайшла выйсце - не даваць дазволу на правядзенне пікетаў. А фармулёўкі прычынаў адмовы - самыя розныя: гэта і недакладнасць вызначанай у заяве мэты пікету (адказ ад 4 красавіка 2000 года) альбо як у апошняй адмове: маўляў, у падтрымку незалежнасці дазваляецца праводзіць толькі два пікеты.

У старшыні гарвыканкама У.Мальца логіка простая і цвердалобая. Гэта там, у Менску, розныя АБСЕ, «Вёсны-96», БХК. А вось у Лідзе ніхто парушэнняў закона не кантралюе, пасаду старшыні даравау сам Лукашэнка, і падпарадкоўваца належыць толькі яму, а не нейкім там дзесяткам тысяч людзей. Адчуваючы асалоду ад улады і неадказнасць перад жыхарамі Ліды, вось і выходзяць з-пад пяра такія адказы: правялі два пікеты - і досыць, чакайце новага дазволу.

**Станіслаў Беркус,**
**кіраўнік Лідскай арганізацыі КХП - БНФ**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

4-пакаёвую кватэру ў Наваградку (3-ці паверх, тэлефон), тэрмінова і танна ці мяняю на кватэру ў Гродне. Тэл. (8-297) 2-33-51 ці ў Гродне 33-57-04 (запрасіць Марыну або Аляксандра).

2-пакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатнія рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, канапа, трумо; а таксама каракулевую шубу. Тэл. 33-30-98.

Дом у в.Зарыца. Звяртацца: в.Лапенкі, дом 71.

Тэлевізар «Электрон» у працоўным стане (кошт - 10 тыс. руб.); капот да аўтамабіля «Ford Sierra» (танна). Тэл. 2-65-60.

Левую фару ад «Audi-100», б/у; новы фотаапарат «Зеніт-21SX»; узмацняльнік «Вега-122 АС50»; лічбавую магнітолу «Tomashi». Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Фотаапарат «Зеніт» (серыя «Е»), амаль новы, танна; фотаапарат «Рэд-2» у дрэнным стане, кошт - 3 у.а.; падлеткавыя джынсы (5 у.а.). Тэл. 47-26-03 (запрасіць Сяргея).

Стары халадзільнік «Днепр» для дачы, вельмі танна. Тэл. 47-32-06.

Швелер N16 (100 кг). Тэл. 99-56-12 (запрасіць Аркадзя).

Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выхадных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (пасля 19.00).

Карэйскі радыёпрыёмнік-тэлевізар (23 см), універсальнае сілкаванне, б/у. Звяртацца на адрас: вул. Урублеўскага, д.5, пакой 115б.

Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі "Sega" (па кошту 2,5 тыс. рублёў): 4-гульнёўку - Bare Knucle ("Вуліцы гневу", баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі), Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, "аднарукі бандыт", відэапокер, скачкі, латарэя), Sonic-1 (прыгодніцкая гульня), Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф "Чужыя") ды інш. Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гульнёвыя прыёмы. Тэл. 75-44-70 (запрасіць Святлану).

Баян у добрым стане, б/у. Тэл. 31-62-40.

Кнігі: «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны», беларуска-расейскі слоўнік Байкова, слоўнік беларускай мовы Насовіча ды інш. Тэл. (017) 258-43-54.

Нямецкае піяніна «Роніш» (1985 г.в.), супермадэль. Дорага. Тэл. 33-07-22.

Халадзільнік «Снайге-8» без фрыёну. Кошт - 5000 рублёў. Тэл. 6-69-65 (пасля 16.00).

Ланцужок для сабакі, клетку для птушак, новыя ракеткі для бадмінтону. Танна. Тэл. 47-26-03 (запрасіць Сяргея).

Ракеткі для вялікага тэнісу дзіц.-падлетк.; новую пральную машыну «Урал». Тэл. 75-30-93 (пасля 16.00).

Пыласос айчыннай вытв., у добрым стане, магутнасць - 800 Вт. Гарантыя экспл. Кошт - 15 у.а. Тэл. 6-45-74.

Газавую пліту, б/у. Танна. Тэл. 47-18-21.

Рогі лася (11 разгалінаванняў), 2 паўтарачныя ложкі (б/у, танна), магнітафоны «Сатурн-201», «Вега-328-стэрэа», мужчынскія плашчы (п.46-54), мужчынскія касцюмы (п.48 рост 182; п.50 рост 176), жаночыя боты: асеннія (п.37), зімовыя (п.38). Тэл. 33-79-95.

Металічную цяпліцу пад шкло. Тэл. 75-33-55.

Гатовыя адказы па гісторыі найноўшага часу адпаведна праграме ўступных экзаменаў у БДУ. Тэл. 33-07-22.

## КУПЛЮ

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану), хатні 75-44-70 (штодня, пасля 19.00).

Рухавік да аўтамабіля «Fiat Uno». Тэл. 74-33-94.

Нержавеючыя электроды. Тэл. 47-26-03 (запрасіць Сяргея).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

## ПАСЛУГІ

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сцислага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і муз. гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Расейская, ангельская, балгарская, беларуская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па ангельскай, беларускай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Кладу печы, каміны. Хутка, якасна, надзейна і прыгожа. Тэл. 6-46-32.

Доктар С.Каляда праводзіць інтэнсіўную псіхатэрапію алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнню відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліц. N613, выдадз. МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

Здаю 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры горада. Тэл. 44-55-94.

Здаю пакой з мэбляй. Тэл. 6-66-96.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Ручное вязанне. Тэл. 72-58-94.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай. Пра сябе: 40/170/65, разведзены, не куру, спіртным не злоўжываю. Пішыце: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0452627.

## ВІНШАВАННІ

Самага пяшчотнага, незвычайна прыгожага, найцудоўнейшага ў Сусвеце хлопца - ***Алёшу Салея*** - віншую з Днём нараджэння! Мілы коцік! Маё сэрца перапаўняе радасць ад таго, што ты ў мяне ёсць. Я так цябе кахаю, мой адзіны і незаменны! Няхай твой прыгожы твар часцей асвятляюць прамяністыя ўсмешкі! Хай больш нідзе табе не будзе настолькі прыемна і незабыўна, як побач са мною. Не страчвай надзеі ў сябе і ў сваю ўдачу! Ты ж сапраўдны АС!

**Твая «вялікая шкодніца»**

Віншую з Днём нараджэння свайго дзядзю і хроснага - ***Віктара Саўко.*** Жадаю табе ніколі не хварэць і не засмучацца, здзейсніць усе самыя запаветныя мары і, не зважаючы на перашкоды, заўсёды заставацца вясёлым, добрым і маладым! Шчасця, удачы табе, дарагі наш чалавек!

**Аксана**

Віншуем ***Святлану Віктараўну Дулеўскую*** з днём нараджэння! Хай беды знікнуць з дарогі тваёй, хай будзе болей добрых сяброў, няхай будзе ўсё, што ты хочаш сама! Каханне табе, надзеі, дабра!

**Твае муж і сыны**

Сардэчна віншуем ***Караля Алекса*** з Днём народзінаў! Хай крыштальная чара тваёй маладосці заўсёды будзе напоўнена жывой вадою. Няхай ніколі не сохнуць у ёй кветкі здароўя, розуму, адвагі і дабрыні! Хай твая каралеўская галава, Алекс, кружыцца толькі ад таго, што келіх твайго жыцця перапаўняе шчасце! Дзякуй, што ты ёсць!

**Удзячныя людзі**

***Кіфа***, ты стаў старэйшым яшчэ на год! З днём нараджэння цябе! Хай ніколі шаты тваіх нягодаў не астудзяць палац тваіх радасцяў, а вятры нягодаў не здолеюць сцішыць дыханне твайго шчасця. Няхай дрэва тваіх жаданняў, асалоды і ўцехі заўжды зелянее! Хай на паплавах твайго жыцця квітнее верас, а на галінках задавальненняў мілагучна спяваюць салаўі.

**Кіфаманка**

***Лёха!*** З Днём анёла цябе! Усё будзе ў парадку, Лё-ё-ёлік!!! Прынтараў табе на сто гадоў, сканераў і картрыджаў па самыя мікіткі!

**Пал Іваныч**



***Шчыра віншуем з Днём народзінаў выдатнага спецыяліста па камп'ютарнай вёрстцы Аляксея Салея!***

*Хай зоркі свецяцца ў тваіх вачах*
*І шчасце, як шампанскае іскрыцца,*
*Хай слёзы ў іх ніколі не бліщчаць*
*І ў сэрцы смутку хай не будзе дзе туліцца!*

*Няхай табе сонца смяецца,*
*Няхай табе ўсё удаецца!*
*Жадаем удачы, здароўя без лекаў,*
*Дабра і спакою, шчаслівага веку!*
*Няхай абмінаюць бяда і трывогі*
*І стомы не чуй ад жыццёвай дарогі.*

Супрацоўнікі газеты ПАГОНЯ





## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Вернісаж гарадзенскай мастачкі Алены Кузняцовай. Графіка.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Працяг выставы каляровых фотаздымкаў памяці Віктара Залецкага.

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** 26 верасня ў 20.00 - канцэртнае выступленне расейскага гурта «И.К.С.- Миссия».

**Драмтэатр.** 27 верасня - Раман Карцаў з праграмай: І аддз. - «Мая Адэса», ІІ аддз. - «Добра забытае старое». Аўтар - М.Жванецкі. Пачатак у 19.00.

**Тэатр лялек.** 23 верасня - «Неверагодны ілюзіён». Пачатак у 12.00. 24 верасня - «Прыгоды Пінокіо». Пачатак у 12.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 21.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Газета ПАГОНЯ**
**Запрашае на працу**
***пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!***
*Тэл. 72-37-14, 72-29-96*

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Сьлёзы і радасьць Сіднэя

**З пераменным посьпехам выступаюць пакуль на Алімпіядзе беларускія спарцмены. Па стану на раніцу ўчарашняга дня на рахунку нашай каманды былі тры бронзавыя і адзін срэбраны медаль.**

Два зь іх на рахунку былога гарадзенца, стралка Ігара Басінскага. У першы дзень стартаў ён здабыў бронзу ў стральбе на 10 метраў, а затым вызначыўся на дыстанцыі 50 метраў. Кампанію Ігару складаў гарадзенец Канстанцін Лукашык. Але ён выступіў не так удала. У першым выпадку Лукашык падзяліў 15-16 месцы, а ў другім - 8-10.

Яшчэ адну бронзу нашай камандзе прынёс дзюдаіст Анатоль Ларукоў (вагавая катэгорыя да 73 кілаграмаў). У паўфінале ён саступіў будучаму чэмпіёну - італійцу, а ў сустрэчы за 3-е месца чыста перамог чэмпіёна сьвету амэрыканца Пэдра.

Яшчэ адзін медаль прынёс нашай камандзе штангіст Сяргей Лаўрэнаў (да 69 кілаграмаў). Учора раніцою ён саступіў толькі балгарам Баеўскаму і Маркаву.

Што да выступаў гарадзенцаў, то ў гімнастаў не здолелі прабіцца ў фінал ні мужчынская (8-е месца) ні жаночая (12-е месца) каманды. У складзе першай выступаў Іван Паўлоўскі (22-е месца ў асабістым заліку перад індывідуальным турнірам, які праходзіў ўчора). У складзе другой адной зь лепшых была Тацяна Жарганава, чаго не скажаш пра Тацяну Грыгарэнку. Але для яе гэта, хочацца спадзявацца, не апошні алімпійскі старт.

**Вітаўт Руднік**

# За славай супраць «Славіі»

**17 верасьня. «Камунальнік» - «Нёман-Белкард» 1:1**
**«Ліда» - «Тарпеда-Кадзіна», Магілеў 3:0**

Здабытае ў Слоніме ачко каштавала гарадзенцам страты паловы асноўнага складу каманды перад сустрэчай з лідарам чэмпіянату - мазырскай «Славіяй».

«Тэмпературу» гульні ў Слоніме падагравала імкненьне гаспадароў рэваншавацца за ганебныя 0:8 ў Гародні і аддаліцца ад небясьпечнай зоны выбыцьця з вышэйшай лігі. Для гасьцей жа кожнае згубленае ачко зьніжае шанцы на месца ў прызёрах.

Ахалоджваць імпэт супернікаў узяўся арбітр сустрэчы Аляксандр Рэмін. Дзякуючы ягоным намаганьням абедзьве каманды сустрэлі фінальны свісток ў няпоўных складах: у гарадзенцаў былі выдаленыя гульцы моладзевай зборнай каманды Беларусі Тарашчык і Раўнейка, а ў «камунальнікаў» - А.Дзегіль. Да таго ж, цотныя жоўтыя карткі ў «Нёмана» атрымалі апорны паўабаронца «Нёмана» Кірэня, кандыдат ў нацыянальную Крыванос ды расейскі легіянэр Крыкораў. Гэта азначае, што на сустрэчу супраць «Славіі» гарадзенцам давядзецца выйсьці без пяці гульцоў асноўнага складу!

Што да гульні ў Слоніме, то посьпех гаспадарам прынёс трапны ўдар Вярбіцкага, а гасьцей за пяць хвілінаў да канца гульні выратаваў удар галавой у выкананьні капітана каманды Сяргея Мірошкіна.

У Лідзе тым часам гаспадары накаутавалі аўтсайдараў з Магілева і цяпер, у выпадку сёньняшняй удалай гульні ў гасьцёх супраць «Лакаматыва-96» могуць перабрацца з 14-га месца на 1-2 вышэй. А вось слонімцам давядзецца цяжка - у Барысаве іх чакае гульня супраць БАТЭ, якое імкнецца дагнаць дуэт лідараў.

**Віктар Людвіковіч**

# У Нямеччыну па навуку

**Амбасада Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь сумесна з Міністэрствам адукацыі РБ паведамляюць, што Нямецкая служба акадэмічных абменаў (DAAD) абвяшчае конкурс для беларускіх навукоўцаў, навуковых супрацоўнікаў, аспірантаў і студэнтаў вышэйшых навучальных установаў на атрыманне стыпендыяў для стажыроўкі ва універсітэтах Германіі ў 2001-2002 гадах.**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца:

1) маладыя навукоўцы і аспіранты не старэй за 32 гады, з вышэйшай адукацыяй, якія займаюцца навуковай (і выкладчыцкай) дзейнасцю ў вышэйшых навучальных і навуковых установах па ўсіх навуковых дысцыплінах, у тым ліку па музыцы і выяўленчаму мастацтву (стыпендыя на тэрмін да 10-ці месяцаў);

2) студэнты-германісты 2-4 курсаў (стыпендыя на тэрмін да аднаго семестра);

3) студэнты-эканамісты III курса (стыпендыя на тэрмін да 10-ці месяцаў);

4) студэнты 3-4 курсаў і выкладчыкі нямецкай мовы не старэй за 32 гады (летнія курсы нямецкай мовы); апроч таго, прапаноўваюцца 3-4-тыднёвыя летнія курсы для студэнтаў, якія вывучаюць дысцыпліны, што маюць адназначнае дачыненне да Германіі;

5) юрысты, якія спецыялізуюцца ў галіне міжнароднага права; выпускнікі юрыдычных факультэтаў, што маюць 2-гадовы досвед працы, якія не старэй за 30 гадоў (тэрмін стыпендыі - 10 месяцаў);

6) маладыя навукоўцы і аспіранты не старэй за 32 гады, з вышэйшай адукацыяй, якія займаюцца даследчыцкай працай па ўсіх навуковых дысцыплінах (стыпендныя на тэрмін да 6-ці месяцаў);

7) навуковыя супрацоўнікі (без абмежавання ўзросту), якія маюць навуковую ступень, займаюцца навуковай і даследчыцкай дзейнасцю ў вышэйшых навучальных і навуковых установах па ўсіх навуковых дысцыплінах (стыпендыя на тэрмін да 1-3 месяцаў);

8) студэнцкія групы для азнаямляльных паездак у Германію.

Па праграмах 2,4,7 выдаткоўваюцца дадатковыя стыпендыі для этнічных немцаў. Умовы падачы заяваў такія ж, як і для іншых спаборнікаў на атрыманне стыпендыяў.

Усім кандыдатам на атрыманне стыпендыяў па праграмах 1-5 належыць прайсці тэст на веданне нямецкай мовы. Для гэтага трэба звярнуцца да лектараў DAAD - спадарыняў Сабіны Бранеске, Керсцін Мюллер, Лідзіі Мархоф і да спадара Петэра Альпека.

Кансультацыі праводзяцца:

- спадарыняй Сабінай Бранеске - па серадах з 14.00 да 15.30 у Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, аўд. В400 (Менск, вул.Захарава,21, станцыя метро «Плошча Перамогі»);

- спадарыняй Керсцін Мюллер - штočацвер з 11.30 да 12.30 у Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, аўд. А404;

- спадаром Петэрам Альпекам - штoчацвер з 15.00 да 17.00 у Беларускім дзяржаўным універсітэце, пакой 301 (Менск, Плошча Незалежнасці);

- спадарыняй Лідзіяй Мархоф у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы (кафедра нямецкай мовы).

Прыём дакументаў, за выключэннем праграмы 3, заканчваецца першага снежня 2000 года. Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве адукацыі і лектарамі DAAD.

Бланкі заяваў і дадатковую інфармацыю ахвотныя могуць атрымаць па адрасу:

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

г.Менск, вул.Свердлава,7, пакой 215

Спадарыня Н.Хацкевіч, спадар Ю.Белавусаў

Тэлефон для даведак 226-44-84.

Прадстаўленне праграмаў DAAD адбудзецца 5 кастрычніка 2000 года ў 14.00 ў II вучэбным корпусе, актавай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (вуліца П.Броўкі,4, станцыя метро «Акадэмія навук»).



**Па гарызанталі:** 7.Яе сталіца Дублін. 8.Назва рыбы. 10.Беларускі скульптар. 11.Зборнік вершаў В.Віткі. 12.Абрубак дрэва. 14.Інаходзец. 16.Гамерычны смех. 17.Грашовы аброк на Беларусі. 19.Картачны ідыёт. 20. Чалавек, які падарожнічае дзеля адпачынку. 24.Што было ў Маскве ў жніўні 1991 года? 25.Упадак духу. 26.Сярэбраная манета Вялікага княства Літоўскага. 30.Подсціл для стога. 31.Раённы цэнтр на Гомельшчыне. 32.Зборнік вершаў М.Рудкоўскага. 33.Першы гістарычна вядомы полацкі князь. 34.Заранка.

**Па вертыкалі:** 1.П'еса А.Макаёнка. 2.Сельгасмашына. 3.Апавяданне Я.Коласа. 4.Хто прыдумаў палескіх рабінзонаў? 5.Агародная расліна. 6.Арыфметычнае дзеянне. 9.Слоўны кантракт. 13.Частка вупражы. 15.Што такое маргарын? 17.Дата. 18.Масць коней. 21.Засвальнік. 22.Гіпофіз як «сакрэтны» орган. 23.Ускраіна населенага пункта. 27.Нерашучасць. 28.Гультай. 29.Невялікі вакальны твор. 32.Ківі, але не птушка.




**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N34**

**Па гарызанталі:** 7.Журавель. 8.Абстэрна. 10.Мірон. 11.Рабства. 12.Капшук. 14.Берлін. 16.Бізун. 17.Пакт. 19.Енісей. 20.Каласы. 24.Туга. 25. Шкода. 26.Ягдташ. 30.Юкатан. 31.Міткаль. 32. «Смага». 33.Сцізорык. 34.Бабарэка.

**Па вертыкалі:** 1.Кудравец. 2.Звесткі. 3.Слімак. 4.Збан. 5.Ятаган. 6. «Снягурка». 9.Іронія. 13.Вушак. 15. «Лонва». 17.Пасад. 18.Семкі. 21.Хуткасць. 22.Эдысан. 23. «Паўлінка». 27.Гатунак. 28.Маўзон. 29.Аматар. 32.Смык.

ПАМЯТКА ДЛЯ МУЖЧЫНАЎ

# Які з Вас сексуальны партнёр?



**Кожны мужчына патэнцыйна здольны стаць цудоўным каханкам. І тут зусім не важныя Ваш узрост, псіхалогія, сціпласць. У любым выпадку ёсць шляхі для таго, каб стаць выдатным сексуальным партнёрам для жанчыны. Звярніце ўвагу на дзесяць вызнейшых якасцяў, якімі, на думку некаторых жанчын (ва ўзросце ад 18 да 38 гадоў), павінен валодаць добры каханак.**

1. Выразныя вочы, зацікаўлены позірк.

2. Ахайны знешні выгляд.

3. Пяшчота і цеплыня ў адносінах да жанчыны.

4. Далікатнасць, пачцівасць, ветлівасць.

5. Уменне надзвычай добра цалавацца.

6. Майстэрства ва ўзбуджальных любоўных гульнях.

7. Прыемны на выгляд і акруглы зад.

8. Сексуальная моц.

9. Добрае валоданне тэхнікай ласк пасля акту кахання.

10. Мускулы.

Такім чынам, большасць жанчын куды меней цікавіць Ваш мускулісты торс, чым Вашыя вочы. А пяшчота, сардэчнасць і далікатнасць цэняцца значна вышэй за сексуальную тэхніку. Для жанчын важней эмацыйны бок сексу і пачуццё абароненасці, чым для мужчынаў. Галоўнае пры жаданні стаць дасканалым каханкам - не браць пад сумнеў сваю сексуальную можнасць і быць упэўненым ва ўласных сілах чалавекам. Гэта дапаможа Вам наблізіць той час, калі яна шчыра і пяшчотна скажа Вам: «Ведаеш, а ты самы найлепшы каханак, пра якога я магла раней толькі марыць!».

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Прадузяты погляд на некаторыя падзеі можа дадаць Вам сумневаў. Так што глядзіце на рэчы прасцей.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Пакіньце нервавацца і пазбягайце канфліктных сітуацыяў з каханым чалавекам - так і да сваркі недалёка.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Увесь гэты тыдзень Вы будзеце адчуваць павышаную ўзбуджанасць, звязаную са шматлікікмі спакусамі.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Разнастайныя непаразуменні, звязаныя з падкопамі нядобразычліўцаў, спрыяльна вырашацца, і Вы нарэшце зойме́цеся неадкладнымі справамі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Стрэсаў і перанапружання Вам няблага было б пазбягаць, бо самаадчуванне ад гэтага ў Вас зусім не палепшыцца.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Гэты тыдзень адкрые перад Вамі някепскія перспектывы, калі Вы скарыстаецеся сваімі навыкамі і талентам.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** На працы могуць узнікнуць недарэчныя па сваёй сутнасці канфлікты. Перагледзьце свае перакананні.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Не прымайце блізка да сэрца непрыемнасці - у параўнанні з перспектывамі яны выглядаюць даволі смяхотна.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Калі і надалей будзеце паводзіць сябе натуральна, то атрымаеце на працягу гэтага тыдня мноства станоўчых эмоцыяў.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Не рызыкуйце распачынаць новыя справы, пакуль не давялі да толку ўсе бягучыя.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Гэты тыдзень наўрад ці падасца Вам надзвычай напружаным і складаным, хутчэй за ўсё, плённым.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Некаторыя праблемы, што могуць узнікнуць з-за Вашай няўважлівасці, будуць нязначнымі, але адаб'юцца на Вашым сямейным бюджэце.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 2945 Наклад 7 140 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 20.09.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей